# ЦАРКОЎНЫ

Паведамленьні
Парахвіяльнае Рады



Беларуская Аўтакефальная
Праваслаўная Царква

# ПАСЛАНЕЦ

Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага

401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217

**Год 17/23** **Кастрычнік, 1995** **II/36/46**


## ПЯРУН ТРЭСНУЎ – ПАРА ХРЫСЬЦІЦЦА

Бадай ці ня ўсім ведамая прыказка: "пакуль не загрыміць, мужык ня перахрысьціцца", й ейная пацэльнасьць ня выклікае ў нікога сумневу, хоць з дазнаньня можна сказаць, што мужык пакладзе на сябе знак крыжа ўзагадзя грымотаў хутчэй за паноў і падпанкаў.

На барджджэйшы зварот простых людзей да Бога, раўнуючы да адукаваных, можна спадзявацца, аднак, ня толькі ў прыродных нягодах, але й у грамадзкіх, ды нацыянальных патрэбах і няшчасьцях.

Калі-ж паставіць знак роўнасьці паміж адукацыяй і нацыянальнай сьведамасьцяй, таму, што гэткая сьведамасьць у нас патрабуе высокае ўроджанае інтэлігэнцыі й немалое, хай сабе й саматужнае, парою, асьветы, зь якімі толькі можна выбрысьці з балота супрацьбеларускае маны, дык вышэй зробленая заўвага праз паноў і падпанкаў вельмі добра прыстае й да нашага адраджэнскага актыву раней, ды цяпер.

Нельга бо, агледзеўшы гісторыю беларускага адраджэньня, сказаць, каб рэлігійныя справы, ці царкоўныя праблемы займалі ў ім значное мейсца, а, наадварот, даводзіцца сьцьвердзіць, што гэтыя пытаньні ўвесь час сустракалі зь ягонага боку малую цікаўнасьць ды выклікалі яшчэ меншую дзейнасьць.

Зрэштай і тая малая цікаўнасьць зводзілася найбольш да нараканьня на варожую да беларускае справы дзейнасьць чужынскіх царкоўных і касьцельных структураў, ды да ймкненьня будаваць адраджэнскі рух безь якіх-колечы рэлігійных матываў і меркаваньняў.

У выніку вялікая частка духовага жыцьця Беларускага народу была манапалізаваная суседзкімі рэлігійнымі структурамі з захаду й усходу, якія мала дбаючы пра хрысьціянскую веру, застаюцца перадусім рухавікамі захопніцкіх імкненьняў, асыміляцыйнага ціску ды народагубных дзеяў, ад якіх наш народ так доўга церпіць. Здаўна й бясконца, як грымоты, пракочваюцца над нашым Краям чыненыя акупантамі зьдзекі, гвалты й зьнявеччы, шукаючы ратунку ад якіх, запалоханы, зьбянтэжаны ды зьняверaны ў сваю людзкую вартасьць народ хрысьціцца не на Бога, што яго на сьвет пусьціў, а ў бок антыхрыставых баганоў, якія яму права на існаваньне адмаўляюць.

Гэтта, магло здацца, была-б пара некаму ў нас на Бацькаўшчыне ўцяміць, што дзейным спосабам адвярнуць шлях да згубы ў бок ратунку, можа быць адно родная Праваслаўная Царква зь Ейнай навукай пра Божую любасьць да ўсяго, што Ён стварыў, праз мейсца кожнаму стварэньню ў пляне Ягонае мудрасьці, ды грэх і пакараньне нам за перашкоду да здабыцьця Божых намераў.

Асабліва няцяжка дайсьці да гэткага выснаву павінна было-б быць беларускаму адраджэнскаму актыву пасьля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў 1990-м годзе, бо заступная за нацыянальныя інтарэсы Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква йснавала ўжо на эміграцыі й доступ да Яе тады адчыніўся.

Нажаль гэны актыў, у розьніцу ад пабожных украінскіх патрыётаў, што адразу ўзяліся за ўзнаўленьне свае незалежнае ад Масквы праваслаўнае царквы, паставіўся да гэтае справы нятолькі каб абыякава, але й зусім няпрыхільна.

На тое мейсца была высунутая й стала пашырацца думка навярненьня Беларускага народу ў вунію, хоць, на цьвярозы розум, пэрспэктывы ейнага адраджэньня на Беларусі былі й ёсьць мізэрныя.

Менш адважная на радыкальныя экспэрымэнты частка знайшла суцішную для сумленьня параду ад бяды ў супрацоўніцтве з Экзархатам Маскоўскае Патрыярхіі ў Беларусі. Надзеі гэтае часткі адраджэнцаў на тое, што з котуха, у які пусьціў іх забаўляцца ўявамі беларускага праваслаўя Экзархат, выйдзе на сьвет ды абыйме ўвесь Край нацыянальная Беларуская Праваслаўная Царква, ня менш наіўныя ад фантазыяў прыхільнікаў вуніяцтва.

Пакуль, аднак, спадзеў на абяцанкі-цацанкі трывае й ілюзыі цьвітуць, за іх даводзіцца плаціць далейшай верай у народзе, што Бог прамаўляе да яго вуснамі й мовай чужынцаў, ды блізкім да кананізацыі выслаўляньнем наездных перакрутняў Божага слова. Ня дзіва таму, што той звычайны, як кажуць, народ, якому няма ад каго пачуць праўды, не аглядаючыся йдзе за бацюшкаўскімі навучаньнямі на рэфэрэндумы й абы-дзе яшчэ, ды аддае голас за самагубства.

Гэтак во, пасьля доўгіх грымотаў, што хадзілі ўвокал, у незалежніцкі рух выцяў пярун Лукашэнкавае самаволі.

Шкада, бязумоўна, што так сталася, бо магло быць іначай, але й у роспач пускацца, ды ў няволю здавацца тым, хто ў Бога верыць, яшчэ

за рана. Пакараў бо хоць нас Бог за грэбнасьць да Ягонае ласкі, ды, як ведама, ня гневаецца Ён навекі, ані не карае бясконца, калі адно з блуду зьвярнуць і на просты гасьцінец падацца.

А на гэты просты гасьцінец да збыцьця нашых нацыянальных імкненьняў мы ўзыйдзем тады, калі стрыжням адраджэнскага руху паставім Веру ў Бога й цьвёрдае пераканаганьне, што змаганьне за права на жыцьцё нашага народу ёсьць Воляй ды Наказам ягонага Стварца. Узрадзіць гэткую Веру ды пэўнасьць службы Божай Волі нельга нейкімі магічнымі трыкамі, а магчыма асягнуць толькі праз узнаўленьне на Бацькаўшчыне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, бо Ёй адно дадзены дар і сіла Божае Праўды выкрыць, ды абярнуць у нішто антыхрыставую ману, што ўдушнымі путамі аблытала Беларускі народ.

Ня вернецца, аднак, нашая родная Царква з эміграцыі адным жаданьнем на гэта, ані створыцца сама па сабе на Бацькаўшчыне, калі не паклічуць Яе Ейныя вернікі ды ня возьмуцца за Ейную адбудову пабожныя беларускія патрыёты. Таму нельга больш адкладаць, а трэба тым, каму гэтая справа на сэрцы, гуртавацца ды пачынаць творчую дзейнасьць на ўзнаўленьне свае Царквы.

Пярун трэснуў, калі-ж, як не цяпер, хрысьціцца?!

## *ВІТАНЬНІ Й НАЙЛЕПШЫЯ ПАЖАДАНЬНІ*

У нядзелю, 28 травеня г.г. у Мэрыдэн, што ў штаце Канэктыкут, парахвіянін нашага Сабору сп. Вітаўт Нэстар узяў шлюб із сп-чняй Лорай Стор. Шлюб адбыўся ў праваслаўнай царкве Сьв. Апосталаў Пётры й Паўла, да парахвіі якое належыць сям'я маладое.

Сп. Вітаўт Нэстар -- сын дзейных здаўна ў БАПЦ сп-ва Марыі й сьв. пам. Аўгена Нэстараў, яшчэ нядаўна й сам браў удзел актыўны ўдзел ў жыцьці нашае парахвіі. Нажаль жыцьцёвыя абставіны прымусілі яго перабрацца ў штат Норт Каралайна, дзе ён працуе й зьбіраецца залажыць сямейнае гняздо.

Жадаем яму й ягонай спадарожніцы жыцьця як найлепшае будучыні!

---

17-га чырвеня г.г. у Нэшанік Стэйшан, Нью Джэрсы, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў ахрысьціў, народжаную 31-га студзеня 1995 г., дачку сп-ва Леаніда й Ізабэлі Войтэнкаў Алівію Грэйс.

Бацька дзяўчынкі, сп. Леанід Войтэнка, змалку дзейны вернік БАПЦ і ягоная жонка, сп-ня Ізабэля, гэткім чынам, ужо другую дачку далучылі да веры дзядоў і прадзедаў.

Радасьць гэтае падзеі дзялілі з бацькамі дзіцяці й прысутныя дзяды -- сп-ва Мікалай і Ганна Войтэнкі, ды прыбылая з Польшчы сп-ня др. Галіна Каммэр. Да хросту немаўля трымалі сп-чня Джэніфэр Брандэр і сп. Мірaслаў Ясько.

Жадаем новаахрышчанай верніцы БАПЦ расьці на Божую славу, а бацькам і дзядам на пацеху!

---

8-га верасьня сёлета выпадаюць 80-я ўгодкі дня нараджэньня аднаго з найбольш выдатных і ўсебаковых дзеячоў беларускае эміграцыі -- сп. Міхася Тулейкі.

Настаўнік з паклікаеньня й паводле адукацыі ня меў ён, аднак, шчасьця прысьвяціць жыцьцё ўмілаванай сэрцу справе, бо, пасьля колькіх год выкладчыцкае працы ў родным Нясьвіжы, доля адрывае яго ня толькі ад гэтага занятку, але й ад Бацькаўшчыны.

Апынуўшыся ў Нямеччыне ён адразу пасьля ейнае капітуляцыі ўлучаецца ў арганізацыйнае жыцьцё беларускіх ваенных уцекачоў, не застаючыся ўбаку, бадай-што, ад ніводнае ў ім дзялянкі. Пасьля пераезду на сталы побыт у Амэрыку ён і гэтта, амаль зь першых дзён, становіцца адным з найбольш актыўных будаўнікоў арганізацыйнае структуры беларускае эміграцыі.

На пералічэньне становішчаў, якія ён у гэтай багатай структуры займаў і зробленых на кожным зь іх паважных асягненьняў, спатрэбіўся-б, прысьвечаны ягонай дзейнасьці, даўжэйшы артыкул.

Ня маючы цяпер на гэта магчымасьці мы хочам усё-ж з глыбокай удзячнасьцяй успомніць і ягоную ахвярную працу на карысьць Беларускае Аўтакефальнае Прасваслаўнае Царквы наагул, ды парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне ў асаблівасьці.

Ён быў наперадзе ў ліку тых, што нашую парахвію закладалі й цягам шмат год, на становішчах старшыні, або сябры Парахвіяльнае Рады, парою ў цяжкія часы, шчыра й неадступна сваёй працай спрычыняўся да ўмацаваньня нашае Сьвятыні й росту ейнае верніцкае грамады. Нельга гэтта, ня ўспомніўшы добрым словам, абмінуць і шматгадовую дзейнасьць сп. М.Тулейкі, як кіраўніка царкоўнага хору, сьляды якое да сёньня застаюцца ў рэпэртуары апошняга.

Маючы ўсе ягоныя, пабежна адно адзначаныя, заслугі на ўвазе, ад імя Кіраўніцтва Сьв. БАПЦ і Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, ды ад сябе, Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" вітае сп. Міхася Тулейку з 80-ці годзьдзем ягонага жыцьця й 50-мі ўгодкамі арганізацыйнае дзейнасьці на эміграцыі, ды жадае яму шмат год у добрым здароўі дакладацца да дабра Беларускае Справы.

## БЕЛАРУСКІ КАНЦЭРТ У БРУКЛІНЕ

18 чэрвеня у Катэдральны Сабор імя Сьвятога Кірылы Тураўскага БАПЦ зьехалася больш народу, чым звычайна. Нядзельную бага-

службу адправіў Я.М. Ізяслаў разам з архімандрытам Інакентам, які прыехаў у парахвію з Дэтройту, штат Мічыгэн. Пасьля службы ў грамадзкай залі меўся быць канцэрт.

Ужо шмат гадоў парахвіяльная Рада выдае свой бюлетэнь "Царкоўны Пасланец", у якім апрача інфармацыяў з парахвіі ўздымаецца пытаньне стварэньня асяродкаў аўтакефаліі на Бацькаўшчыне. І хоць сытуацыя ў Беларусі пагаршаецца, рэдакцыя спадзяецца знайсьці там аднадумцаў. Напярэдадні імпрэзы Рэдакцыйная Калегія распаўсюдзіла "Зварот да Беларускіх патрыётаў", у якім, між іншага, зазначаецца, што ня толькі камуністыя, агэнты расейскага імпэрыялізму пры маўклівай ухвале люмпэн-пралетарыяту "руйнуюць сёньня нашую незалежнасьць, але й вякамі выпрактыкаваныя ў асыміляцыйнай дзейнасьці варожыя царкоўныя й касьцельныя сілы, што акрываючыся Божым Імём імкнуцца нашую свабоду адабраць ды нашую нацыю дазваньня зьнішчыць". Рэакцыяй "ЦП" ёсьць актывізацыя прапаганды на Бацькаўшчыне ідэі Аўтакефаліі, як паважнага атрыбуту ўмацаваньня духовасьці й трываласьці беларускае нацыі. Канцэрт з удзелам ведамых выканаўцаў і артыстаў Валянтыны Пархоменкі, Алеся і Вольгі Казакоў ды Рымы Маленчанкі ладзіўся ў тым ліку й дзеля падтрыманьня выданьня, у выдавецкі фонд якога з ласкі артыстаў пастуціў увесь збор.

Канцэрт адкрыўся малітвай Мітрапаліта й Першагерарха БАПЦ Ізяслава. Уступнае слова прамовіў рэдактар "ЦП" сп. Барыс Данілюк, які, згадаўшы сытуацыю ў Беларусі, прывітаў гасьцей парахвіі ды артыстаў. Рэлігійныя песьні й псальмы, беларускія народныя песьні ў цудоўным выкананьні сп. В.Пархоменкі стваралі шырокую гаму настрояў слухачоў -- ад мінору да мажору. Эфэктна й прывабліва гучэла трыо артыстаў пры уласным акампанэмэнце. Некаторыя песьні публіка сьпявала разам з артыстамі. Беларускія песьні зьмяняліся амэрыканскімі й украінскімі. Сп-ня В.Пархоменка перад выка-наньнем адной з амэрыканскіх рэлігійных песень (у дуэце з В.Казак) зазначыла ўнікальнасьць краіны -- Амэрыкі, дзе ўсе народы жывуць у талерантнасьці й міры, дзе прадстаўнікі любых народаў маюць магчымасьць захоўваюць свае рэлігійныя й культурныя традыцыі.

Сп. Р.Маленчанка дэклямавала псальмы й сьвецкія паэтычныя творы. Тэксты некаторых псальмаў здаваліся вельмі актуальнымі адносна сытуацыі на Беларусі. Пераклад псальмаў на беларускую мову падрыхтаваў сп. Б.Данілюк. Затым сп-ня Р.Маленчанка па-майстэрску выканала монаспэктакль "Каля Адвечнага парога" (аўтар Ала Саскавец, рэжысэр Зінаіда Пасюціна) пра лёс старой бабулі -- высяленкі з чарнобыльскай вёскі.

Самая маладая артыстка, 15-гадовая Вольга Казак выконвала гэтаксама англамоўныя й гішпанамоўныя песьні на уласную музыку. Некаторыя зь іх прагучэлі перад публікай упяршыню. Дарэчы, сп-ня В.Казак ужо з посьпехам брала ўдзел у колькіх конкурсах маладых кампазытараў.

Канцэрт завяршыўся агульным сьпевам артыстаў і прысутных песьні "Пачуй, о, ласкавая маці" паводле музыкі і словаў Б.Данілюка. Задавальненьне ад канцэрту на кароткі час адсунула той стан духовага неспакою, які перадаецца ў Амэрыку з Бацькаўшчыны.

**Прысутны**

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца" горача дзякуе нашым выдатным артыстым: сп-ву Валянтыне й Алесю Казакам з дачкой Оляй ды сп-ні Рыме Маленчанцы за іхныя выступы на канцэрце 18-га чэрвеня г.г. у Брукліне.

Ведамы сярод беларусаў Амэрыкі высокі мастацкі ўзровень роднага слова й песьняў у іхным выкананьні духова наталілі слухачоў, а адмова ад матэрыяльнае ўзнагароды спрычынілася да прыбытку на выдавецкі фонд часапісу.

Рэдакцыйная Калегія таксама моцна дзякуе ўсім тым, хто, уважыўшы ейныя запросіны, былі ласкавыя прыйсьці на канцэрт і праз гэта далажыліся да чыстага прыбытку зь яго на карысьць часапісу ў суме 295.00 дал.

Рэдакцыйная калегія глыбака ўдзячная яшчэ й за атрыманыя на выданьне часапісу ахвяры ад наступных асобаў: Бартуль Ф. і В. -- 75.оо д., Войтэнко М. і А. -- 20.оо д., Данілюк Б. і М. -- 69.51 д., Галяк Р. -- 25.оо д., Гарошка Р. -- 20.оо д., мітрапаліт Ізяслаў -- 50.оо д., Казак А. і В. -- 20.оо д., Касьцюкевіч Ю. і Б. -- 5.оо д., пpрсьв. Кендыш В. -- 20.оо д., пpрсьв. Кулакоўскі А. -- 10.оо д., Курыла Ул. -- 20.оо д., Тулейка М. і О. -- 20.оо д., Хрысьціянін -- 20.оо д.

Разам з падзякай усім дасюлешнім дабрадзеям Рэдакцыйная Калегія заклікае ўсіх чыста чытачоў "Царкоўнага Пасланца" шчодрымі ахвярамі памагчы выдаваць часапіс найменш чатыры разы ў год і гэткім чынам зрабіць справу Беларускае Праваслаўнае аўтакефаліі галоснай і нязмоўкнай, як на эміграцыі, гэтак і на Бацькаўшчыне, ажно да ейнага гэнам ужыцьцяўленьня.

## *ПАТРЭБА ПАБОЖНАЕ ПЕСЬНІ*

Нават у тых краёвых газэтах, што зрэдку даходзяць за мяжу, здавалася-б, даволі вестак, каб адно цешыцца зь немалое колькасьці імпрэзаў з царкоўнай і касьцельнай музыкай, якія раз за разам мае беларуская публіка. Апрача бо розных сталічных і правінцыйных выступаў, ды

канцэртаў, на нашых землях ладзяцца й гэткія шырака ведамыя адумысловыя ўрачыстасьці, як міжнародны фэстываль царкоўнае музыкі ў Гайнаўцы, а за ім і фэстываль хрысьціянскае музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве.

Перагледзеўшы праграмы ці аднае з гэтых сустрэчаў ды конкурсаў, адразу як-бы й карціць паганарыцца зь ліку, ды геаграфічных далячыняў, адкуль яны ўдзельнікаў прыцягаюць, а таксама з высокага ўзроўню выбраных на выступы твораў ды, як пішуць, майстэрскага іхнага выкананьня. Калі аднак, прыдзівіўшыся да праграмаў, не знайходзіцца ў іх нічога, або мала беларускага, дык набягае ў думку пытаньне, ці з усіх нашых чэсьцьцяў чужое рэлігійнае музыкі ёсьць, апрача пагладжанае амбіцыі, якаякольвечы карысьць нам самым.

Моўкнасьць бо беларускае рэлігійнае музыкі на гэтых чэсьцьцях замежнага характава не выпадковая, а выйходзіць зь ейнае, спрычыненае няволяю, беднасьці. Таму духовая зацікаўленасьць і арганізацыйныя намаганьні, на добры розум, павінны былі-б быць у першую чаргу скіраваныя як раз на стварэньне, ці ўзбагачэньне роднае рэлігійнае музыкі ды ладжаньня спрыяльных ейнаму разьвіцьцю сьвятаў.

На гэткі пагляд, пэўна, зьявіцца, заўвага што калі гэткім чынам абмежыць праграмы, дык у нас ніякіх канцэртаў і фэстываляў рэлігійнае музыкі ня будзе, бо, каб стварыць сваё ейнае багацьце, нават пры спрыяльнай паставе царкоўных і касьцельных уладаў, спатрэбіцца нямала часу, а ў нас тае прыхільнасьці й няма.

Заўвага, калі йдзе праз музыку адправаў, ці йнакш сакральную, запраўды слушная, але зь яе не павінна вынікаць безнадзейнасьць і бязьдзейнасьць.

Бо, калі сакральная музыка ствараецца павольнымі тэмпамі, ёсьць суродны ёй, калі можна сказаць, жанр, які ў дагоднай атмасфэры расьце даволі хутка й ядрана, а назоў яму -- пабожная песьня.

У вадрозьненьне ад твораў сакральнае музыкі, выкананьне якіх вымагае сьвятынных, ці ўрачыстых абставінаў ды прафэсыйнага, або блізка да яго ўзроўню выкананьня, пабожная песьня можа гучэць усюды, пачынаючы ад сьвятыні, ці плошчы перад ёю, праз аматарскую сцэну, ды канчаючы кожнай хатай і нагодай, калі звычайны чалавек адчувае патрэбу сваім сьпевам узьняць душу да Бога.

Таму ейныя словы ня мудрагельныя, а сугучныя з настроям таго-ж звычайнага, жаднога лучнасьці зь ягоным Стварцом чалавека, ды лёгкая на памяць, блізкая да народнае, або й зусім свая народная мэлёдыя, што кранае пачуцьці ды бярэ за сэрца. Гэткая песьня ня толькі частка рэлігійнае музыкі, але разам і народнае сьпеўнае творчасьці, ды ейнага багацьця.

Хіба найлепшым прыкладам таго можа быць Амэрыка, дзе пабожныя песьні, ці як яе называюць "gospel music", у мностве традыцыйных гімнаў няспынна чутная ў сьвятынях, а побач з гэтым, у бясконца нанава творанай ейнай рознасьці, яна ня сьціхае на сцэнах і па радыё, ды ў шматтыражных гукавых запісах ня зьйходзіць з рынку.

І няма нічога дрэннага, што прадукцыяй гэтае песьні зайнятая індустрыя з парумільярдным абаротам, а наадварот, даводзіцца адно пазайздрваць.

Во, каб хоць малую частачку гэтага асягнуць у нас, ці не акрыяла-б вера ў Бога ў нашым народзе, ці не зажадаў-бы гэты народ, зьлюбіўшы сьпеўныя звароты да Бога ў роднай мове, чуць сваю родную мову й на адправах у сьвятынях, ды ўва ўсім ягоным жыцьці?!

А чаму-ж бы не? Паэтаў родзіць нашая зямля амаль у кожнай хаце, на таленавітых музыкаў таксама Бог не пакрыўдзіў, а, вось, рэлігійнае паэзіі няма й званьня, ані пабожнае песьні нат і заводу.

Няма бо цікаўнасьці й зразуменьня гэтае вялікае ды важнае патрэбы, няма ейных прапаведнікаў ды на яе спонсараў.

Пара, аднак, схамянуцца й, калі хочам выжыць, узяцца за тварэньне й пашырэньне роднае пабожнае песьні, бо калі ня зробім мы гэтага самыя, падсунуць нам на ейнае мейсца чужую нядобразычлівыя суседзі.

А займеем мы гэтую родную пабожную песьню, калі кожны пабожны й сьведамы беларус яе зажадае й заахвоціць да ейнае творчасьці паэтаў і музыкаў сваёй маральнай і матэрыяльнай падтрымкай, калі заснуюцца колы ейных аматараў, калі знойдуцца людзі з арганізацыйным талентам ладзіць ейныя конкурсы й фэстывалі, ды спонсары, якія гэтымі справамі заапякуюцца.

Ды, ці не маглі-б у нас зьявіцца барды гэтае песьні, што пайшлі-б зь ёю ў народ, на ягоныя фэсты й сьвяты, дзе ён адно ні зьбіраецца?

Фантастычныя праэкты, адбег ад рэальнасьці -- могуць закінуць нам на ўсё, праз што гэтта была гутарка, людзі малое веры, але, ці якія імкненьні, бяз працы й змаганьня за іх, збываюцца самыя па сабе?!

**Барыс Данілюк**

## ІМІГРАЦЫЙНЫЯ СПРАВЫ

Не сакрэт, што беларуская эміграцыя ў ЗША старэе й без падмацаваньня новымі сіламі з Бацькаўшчыны неўзабаве спыніць усьцяж патрэбную дзейнасьць у вызвольным змаганьні.

Падмацаваньне, ці, папраўдзе кажучы, зьмена пакаленьняў беларускае эміграцыі была ўжо даўно неабходная, але забарона выезду зь Беларусі праз шмат дзесяцігодзьдзяў й неспрыяльныя правы на ўезд беларусаў у Амэрыку рабілі здавальненьне гэтае патрэбы немагчымым. Няма сумневу, што на патрэбу новага актыву можна было-б у нейкай меры параіць сіламі маладых і падрослых ужо сыноў, ды дачок ранейшых эмігрантаў, калі-б іхныя бацькі ў пору парупіліся праз духовае й

нацыянальнае ўзгадаваньне дзяцей у адзіным магчымым на гэта мейсцы, а гэта ў беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Гэтак, аднак, не сталася, бо нямала бацькоў, зманутых няўцямнай з пагляду на нацыянальную карысьць агітацыяй палітычнах і грамадзкіх дзеячоў эміграцыі, не разьбіраючыся ў чым справа, аддало дзесяцігодзьдзі каштоўнага часу на асягненьне выразна варожых мэтаў у царкоўным жыцьці ды на змаганьне супраць нязгодных з гэтымі шкоднымі рэчамі япіскапаў.

Вынікі гэтае, заражанае збоку, сьлепаты пачынаюць урэшце-рэшт дайходзіць да розуму часткі нашае эміграцыі, але вярнуць тое, што неразважна згублена ўжо немагчыма й даводзіць адно рупіцца, каб захаваць тое, што засталося ды знайсьці каму, дасьць Бог мудрэйшаму, усё гэта перадаць.

Разумеючы трагэдыю створанае нутраной варожасьцяй сытуацыі й спосабы ратунку ад яе, Кіраўнітцва БАПЦ, не зважаючы на ягоныя абмежаныя праўныя й матэрыяльныя магчымасьці, увесь час імкнулася, пры ўважлівых прычынах, памагчы прыбылым зь Беларусі суродзічам застацца ў Амэрыцы. Нездавальненьне з гэткіх эміграцыйных магчымасьцяў было, ведама, вельмі моцнае, ды, як выявілася, не абмежанае да аднае нашае Царквы, а, з увагі на йншыя яшчэ прычыны, распаўсюджанае сярод большасьці амэрыканцаў, якія не замарудзілі запатрабаваць зьменаў.

Чуткі да паваротаў грамадзкае думкі кангрэс ЗША, ідучы ёй напярэймы, вызначыў для вывучэньня справы адумысловую камісыю, якая напрыканцы сёлетняе вясны выпажыла выпрацаваныя ёю прапановы. Нельга сказаць, каб гэтыя прапановы былі спрыяльныя да нашых патрэбаў ды йимкненьняў, але, ці можна было спадзявацца на іншае бяз удзелу беларускае эміграцыі ў іхным складаньні й бязь ніякага ейнага ўплыву ў амэрыканскай палітыцы, ды кантакту зь ейнымі дзейнікамі?!

Усё-ж пэрспэктывы гэтта ня зусім безнадзейныя, бо кангрэс мае пачаць разважаньні над справай у кастрычніку й зьмены пачатных прапановаў у выніку добра аргумэнтаваных дамаганьняў ад грамадзтва цалком магчымыя ды, пэўна, няўхільныя.

Маючы гэта на ўвэце Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у канцы жнівеня злажыў і выслаў шэрагу ўрадавых асобаў, ды сяброў кангрэсу, што маюць да справы дачыненьне, ліста, у якім вылажыў патрэбы й спадзяваньні БАПЦ, ды беларускае этнічнае групы да зьменаў у іміграцыйных законах.

У лісьце Ўладыка Мітрапаліт коратка згадаў гісторыю беларускага пасяленьня ў Амэрыцы, ды, павязваючы яе да цяперашніх дзён, даў довад патрэбы забясьпечаньня сховам на амэрыканскай зямлі вернікаў БАПЦ ды іншых беларускіх патрыётаў, што за іхныя пераканаьні й дзейнасьць апынуліся пад пагрозай помсты з боку ўзноўленага камуністычнага рэжыму ў Беларусі.

Посьпех звароту Першагерарха БАПЦ да амэрыканскіх уладаў за дазволам на ўезд у ЗША нейкай колькасьці пабожных і патрыятычна настроеных беларусаў быў-бы, бязумоўна, яшчэ больш надзейны, калі-б яго падтрымала падобнымі прасьбамі як найбольш беларускіх арганізацыяў, а нат і паасобных грамадзянаў беларускага паходжаньня.

Будзем спадзявацца, што яны здолеюць выкарыстаць гэты зручны на добрую справу мамэнт.

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
## КАНСЫСТОРЫЯ
### *ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ*

Кансысторыя Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, пазнаёміўшыся з атрыманымі ад былога архіяпіскапа Мікалая (Міхайлы Мацукевіча) ўмовамі, на якіх ён прапануе вярнуцца ў БАПЦ, заяўляе, што:

Асновай існаваньня Праваслаўнае Царквы ад ейнага пачатку былі й застаюцца назаўсёды вылажаныя ў Хрыстовай навуцы Божыя наказы, ды натхнёныя імі правілы Сьв. Апосталаў і Айцоў.

Пашана й захаваньне гэтых асноваў, а не залежнасьць ад сьвецкіх уплываў, ці ўвага на палітычныя абставіны на Бацькаўшчыне, на якія паклікаецца былы архіяпіскап Мікалай, ёсьць галоўнай умовай нутраное згоды й парадку ў царкве, ды Ейнага жыцьця наагул, парушэньне-ж і руйнаваньне гэтых асноваў было й застаецца грэхам, за які, без пакаяньня й пакуты за шкодныя ўчынкі, няма выбачэньня.

Гэткі грэх узяў на сябе архіяпіскап Мікалай заахвочваючы частку вернікаў БАПЦ да супярэчнае асновам царкоўнага йснаваньня непаслухмянасьці іхным япіскапам ды да самаволі ў належных да кампэтэнцыі духавенства справах і гэткім чынам кіруючы іх да адыходу ад царкоўнага адзінства.

Запіканы некалькі разоў сустрэцца з усімі япіскапамі БАПЦ, каб заладзіць ім самым спрычынены канфлікт, былы архіяпіскап Мікалай на гэтыя заклікі не адзываўся, або злосна й абразьліва зьявіцца адмаўляўся, за што ўрэшце быў пакараны пазбаўленьнем япіскапскае годнасьці.

Не зважаючы на гэтае пакараньне былы архіяпіскап Мікалай свае шкоднае дзейнасьці ня спыніў, а выкарыстоўваючы нягодныя паклёпы далей сеяў варожасьць паміж вернікамі БАПЦ ды, зманўшы частку гэных вернікаў на давер да ягонае дзейнасьці, няпраўна стварыў падстаўныя органы царкоўнага кіраўніцтва й гэткім чынам заснаваў пад назовам БАПЦ псэўда-царкву, якую сам і ачоліў.

Праз пятнаццаць год гэтая псэўда-царква, не патрапляючы здабыцца на канструктыўныя крокі, імкнулася, пры дапамозе сьвецкіх дзейнікаў, прадставіць сябе пад імя сапраўднае БАПЦ, гэтым кампрамітуючы нашую Сьвятую Царкву ды ўчыняючы Ёй амаль непапраўную шкоду.

Аддаючы паўтара дзясятка год шкоднай для БАПЦ дзейнасьці, былы архіяпіскап Мікалай не знайшоў за гэты доўгі час мамэнту, каб сумленна ўзважыць вынікі ягоных учынкаў ды, пакаяўшыся, вярнуцца ўва

ўлоньне зраненае ім, але заўсёды гатовае да дараваньня Царквы.

Адно сёньня, зьнявечыўшы рост БАПЦ ды завёўшы сваіх прыхільнікаў у сьляпы завулак, былы архіяпіскап Мікалай ня йз шчырым імкненьнем да згоды, але напышліва ва ўльтыматыўнай форме патрабуе, каб кіраўніцтва БАПЦ забылася на тое зруйнаваньне, што ён спрычыніў, падарыла яму ўсё тое, што ён незаконна захапіў ды згадзілася на ягоную ўладу на чале БАПЦ.

Прыйняўшы гэткія ўмовы Кіраўніцтва БАПЦ ня спрычынілася-б да ўзнаўленьня ў нашай Царкве ранейшае й заўсёды патрэбнае Ёй нутранае згоды, але стала-б супольнікам учынкаў былога архіяпіскапа Мікалая ды ўзяло-б на сябе адказнасьць за гэтыя ўчынкі перад Божым судом, і перад людзкой павагай.

Маючы наўвеце ўсё, што гэтта казалася, Кансысторыя БАПЦ уважае, што былы архіяпіскап Мікалай зможа вярнуцца ў БАПЦ адно прызнаўшыся да памылковасьці ягоных супярэчных царкоўнаму адзінству ўчынкаў ды паправіўшы выніклыя зь іх шкоды, і ў гэтым кірунку гатовая йсьці на далейшыя адкрытыя размовы.

Выказаная вышэй засьцярога не датычыць вернікаў, якія паверыўшы ў карыснасьць намераў былога архіяпіскапа Мікалая, адыйшлі зь ім ад БАПЦ і, зразумеўшы сваю памылку, могуць вярнуцца без адкладу.

У 14-ты /1-шы/ дзень месяца верасьня Божага лета 1995-га.

Бруклін, Нью Ёрк **Кансысторыя БАПЦ**

## СЬВ. ПАМ. АЎГЕН ПРОТАС

2-га чырвеня г.г. у Стэмфордзе, што ў штаце Канэктыкат, на 80-м годзе жыцьця адыйшоў на вечны спачын сьв. пам. Аўген Протас.

Нябошчык паходзіў спад м. Дзісны, дзе ў часы польскае акупацыі здабыў сярэднюю асьвету. Пасьля школы служыў у польскім войску, коратка працаваў у мясцовай адміністрацыі, а ў вайну 1939 г. лучыў на фронт ды апынуўся ў нямецкім палоне.

Вярнуўшыся з пачаткам нямецка-савецкае вайны дамоў ён адразу далучыўся да беларускае адраджэнскае працы, галоўным чынам з моладзяй і ў службе абароны. Апынуўшыся ў выніку новае савецкае акупацыі нашага краю ў Нямеччыне й гэтта ён стаў актыўным удзельнікам беларускага арганізацыйнага жыцьця. Не адлучыўся ён ад гэтага жыцьця й пераехаўшы ў Амэрыку, хоць жывучы на адсельлі ад эміграцыйных асяродкаў, ня меў нагоды браць больш дзейнага ўдзелу.

Не стаяў сьв. пам. Аўген Протас убаку й ад свае роднае Праваслаўнае Царквы ды ад самага пачатку ягонага заснаваньня быў вернікам Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, даяжджаючы, калі мог, здалёк на адправы й парахвіяльныя ўрачыстасьці нават у паважным ужо веку, ды падтрымоўваючы сваю Сьвятыню шчодрымі ахвярамі.

Няхай-жа Бог дасьць яму спачын між справядлівых!

## ПАМЯЦІ А.ХВЕДАРА ДАНІЛЮКА

29 ліпеня сёлета зыйшло 35 год ад сьмерці ведамага беларускага нацыянальнага й рэлігійнага дзеяча, заснавальніка парахвіі й першага настаяцеля Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Брукліне Мітр. пратаярэя а. Хведара Данілюка.

Хведар Данілюк нарадзіўся 25 жніўня 1887 г. у вёсцы Сурынка Слонімскага пав. На ягоную духовую фармацыю, відаць, паўплываў блізкі славуты манастыр у Жыраве (Жыровіцах), дзе хлапчуком пачаў ён сьпяваць у архірэйскім хоры дый пазьней скончыў духоўнае вучылішча. Працаваў настаўнікам і дзяком у розных мейсцах Беларусі ажно да мабілізацыі ў расейскае войска напачатку сусьветнае вайны. У 1916-м г. скончыў школу прапаршчыкаў. Пасьля лютаўскае рэвалюцыі далучыўся да беларускага руху ў расейскім войску й, трапіўшы на румынскі фронт быў беларускім камісарам IY-га корпусу ды працаваў у фармаваньні беларускіх нацыянальных вайсковых адзінак.

Вярнуўшыся на Бацькаўшчыну, у 1918-19 г.г. быў старшынём Беларускага Камітэту ў Ваўкавыску. Арыштаваны палякамі за беларускую дзейнасьць уцёк з турмы ў Беластоку ў Летуву, дзе служыў афіцэрам пры Ўрадзе БНР ды коратка ў летувіскім войску. Не схацеўшы застацца за мяжою, падаўся, аднак, узноў дамоў, дзе неўзабаве трапіў сьпярша ў бальшавіцкую, а ўсьлед і польскую турмы. Зьняволеньні, усё-ж, ня спынілі ягонае нацыянальнае дзейнасьці, бо выйшаўшы на волю ён бярэ удзел у арганізацыі беларускага палку ў Горадні, а пасьля ў тварэньні адзьдзелаў Беларускае Вайсковае Камісыі, у якіх служыў паручнікам. Па заданьні БВК фармаваў вайсковыя адзінкі на Случчыне ўвосень 1920 г., ачольваў вучбовую каманду Слуцкае брыгады. Пасьля прыдушэньня Слуцкага паўстаньня служыў у беларускім батальёне ў Лодзі.

Увосені 1921-га г. у Горадні быў усьвячаны ў сьвятарскі стан. У 20-30-я г.г. выконваў пастырскія абавязкі на парахвіях у Наваградчыне й Слонімшчыне. У гэтыя часы а. Хведар як мог праціўіўся дзяржаўнай палітыцы палянізацыі беларусаў, за што зьведаў ці мала няпрыемнасьцяў. У 1935 г. няпраўдна прыцягваўся да суду "за абразу польскага народу". Божай ласкай выратаваны з арышту ў першай хвалі тэрору савецкае акупацыі, што пачалася ў 1939-м годзе, а. Хведар, дзеля бясьпекі, вярнуўся на парахвію ў родным сяле Сурынцы, дзе й служыў да лета 1942 г., калі перад пагрозамі жыцьцю з боку савецкіх партызанаў выехаў на парахвію ў Дзярэчын. У тым жа годзе браў удзел у працы менскага сабору, які абвясьціў Аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Ад 1944 г. а. Хведар жыў на эміграцыі ў Нямеччыне й пазьней у ЗША. Зь першых дзён жыцьця на чужыне а. Хв.Данілюк узяў на сябе цяжар арганізацыі рэлігійнага жыцьця эміграцыі

ды абароны БАПЦ ад няпрыяцеляў. Быў першым настаяцелям Катэдральнага Сабору імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне. 29 ліпеня 1960 г. Мітрафорны пратаярэй а.Хведар Данілюк адыйшоў у йншы сьвет, прысьвяціўшы сваё жыцьцё Богу й Бацькаўшчыне.

30 ліпеня 1995 г. парахвіяне Катэдральнага Сабору ўшанавалі сьветлую памяць а. Хв. Данілюка ўдзелам у прысьвечанай яму паніхідзе, якую адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

## СЬМЕРЦЬ КІЕЎСКАГА ПАТРЫЯРХА

14-га ліпеня г.г. на 69-м годзе жыцьця памёр Найсьвяцейшы Ўладзімер -- Патрыярх Кіеўскі й Усяе Украіны, у сьвеце Васіль Раманюк.

Нябожчык з маладосьці быў наважным змагаром за дзяржаўную незалежнасьць Украіны й аўтакефалію Украінскае Праваслаўнае Царквы, за што двойчы быў зьняволены й зачынены ажно праз 19-ць год у савецкіх канцэнтрацыйных лягерох. Вызвалены ўрэшце з засланьня ён, падчас побыту ў Канадзе ды ЗША з 1988-га па 1990-ты год знаёмячыся з жыцьцём УПЦ дыяспары, рыхтаваўся да ўзнаўленьня нацыянальнае царквы на бацькаўшчыне, куды ўрэшт з гэтай мэтай і вярнуўся.

Зь вясны 1990-га аж да лета 1993-га году ён займаў япіскапскія катэдры на Ўкраіне, а пасьля сьмерці першага Кіеўскага Патрыярха Мсьціслава абняў становішча першагерарха УПЦ ды ўрэшт, у лістападзе 1993-га году, у выніку саборнага выбару ўзыйшоў на патрыяршы пасад.

З сумнае прычыны сьмерці Патрыярха Ўладзімера Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў Сыноду Кіеўскага Патрыярхату УПЦ шчырыя спачуваньні ад БАПЦ. У дзень паховінаў Патрыярха, 18-га ліпеня г.г., Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў быў запрошаны ў царкву Сьв. Ап. Андрэя ў Баўнд Бруку, Н. Дж., дзе разам з архіяпіскапам УПЦ ў ЗША Антоніям і мяйсцовым духавенствам адправіў паніхіду за супакой душы спачылага.

Нельга, нажаль, моўчкі абмінуць паведамленьняў, што на паховінах Патрыярха Ўладзімера ў Кіеве дайшло да балючых кожнаму праваслаўнаму й неўяўных на здаровы розум інцыдэнтаў.

Пахавальную працэсыю, што накіроўвалася да нацыянальнае ўкраінскае сьвятыні -- Сьв. Сафійскага Сабору, дзе, бязь ніякага сумневу, павінна было быць мейсца на спачын Першапастыра Ўкраіны, заатакавалі адзьдзелы міліцыі адумысловага прызначэньня. У выніку брутальна ўжытае гэтымі адзьдзеламі сілы пацярпела нямала вернікаў, а нават і духавенства. Недапушчаныя гвалтам і біцьцём да Сабору вернікі здолелі, усё-ж, пахаваць цела Архіпастыра ў насьпех выкапанай магіле перад будынкам, дзе яно й дасюль спачывае.

Украінскі ўрад тлумачыць інцыдэнты тым, што Сьв. Сафійскі Сабор, як гістарычны помнік ды музэй, ёсьць дзяржаўнай уласнасьцяй ды знайходзіцца пад аховай ЮНЭСКА й таму ў ім, ці каля яго не дазваляюцца ніякія зьмены. Выпраўданьне гэтае зусім нярэчавае, бо нямала дзе ў сьвеце хрысьціянскія сьвятыні, што ёсьць гістарычнымі помнікамі, застаюцца ў карыстаньні цэркваў, да якіх яны належалі ад пачатку й з гэтага ані ім шкоды, ані нікому прыкрасьці няма. Хутчэй за ўсё ў гэтым выпадку абазвалася нясьціхлая з савецкіх часоў варожасьць да Ўкраінскае Праваслаўнае Царквы ды Ейнае дзейнае ролі ў нацыянальным жыцьці.

Як-бы ня было, а ўсё-ж украінскія ўлады ў выніку падзеяў 18-га ліпеня не здабылі сабе славы.

## СЛУЖБОЎНІК

Летась у Таронта, што ў Канадзе, пад выдавецкай шыльдай БАПЦ выйшла ў сьвет блізка 400-та бачынавая кніжыца -- другое выданьне "Службоўніка", дзе зьмешчаныя ў беларускім перакладзе Сьв. Літургіі, якімі карыстаецца Праваслаўная Царква.

Зьява гэтае кніжыцы -- падзея ў беларускім друку, якое нельга абмінуць моўчкі, бо ад яе можа залежаць станаўленьне нашае літургічнае мовы й таму, судзячы зь мінулае практыкі, што ў нас ніхто на яе не адгукнецца, даводзіцца, хоць з большага, на бачынах "Царкоўнага Пасланца" выказаць набеглыя зь ейнага зьместу думкі.

Аўтар перакладу, ці, як ён падпісваецца ў прысьвячэньні кнігі ягонай маці, "укладальнік", нідзе свайго шырака, зрэштай, ведамага ймя не падае й дзеля гэтага, паважаючы ягоную волю, я гэтта называць яго ня буду, а адхіліўшыся на мамэнт, каб сказаць, што дакладна ўзважыць зьмест кнігі гэткага абыйму, нават у даўгім артыкуле, немагчыма, займуся кароткімі заўвагамі адно да тых частак, ці месцаў Сьв. Літургіяў Яна Залатавуснага й Васіля Вялікага, што чутныя кожнаму маленьніку ў царкве.

Гэткім чынам, абмінуўшы ўваходныя сьвятарскія малітвы й "праскамідыю", ці я сказаў-бы "прынoсіны дароў", пачну з другое часткі, якую перакладнік называе ў пачатку Сьв. Літургіяй "агалошаных", а далей у кнізе "тых, што рыхтуюцца да хросту", хоць ёй можна было-б даць просты й ясны назоў "Літургіі настаўляных". Самая адправа, паводле перакладу, пачынаецца выгаласамі, сьпярша дыяканавым "дабраслаў, уладыка" й усьлед за ім сьвятарскім "дабраславёнае валадарства...", што, нажаль, адразу квяляць вуха іхнай выдумнасьцяй і дзівотнасьцяй.

Прычына на гэта выразная: калі грэцкай мове арыгіналу адправаў свомыя складаныя словы тыпу "добра+слОвіць" і адтуль яны былі перасаджаныя ў царкоўна-славянскую, дык гэта зусім ня значыць, што й мы мусім калечыць сваю мову гэткімі неўпадобнымі ёй, ды абернутымі ў бязглуздзе калькамі, як "добра+СЛАвіць" і ад яго выводнымі.

Патрэбнае ў гэтым выпадку значаньне ўзмоцненае пахвалы можна зусім добра

панашаму выказаць створанымі ад назоўніка "хвала" словамі "хвалаваньне, хвалаваць, хвалаваны". Таму ў гэтым месцы панаску й куды мілей для вуха гучала-б напачатак "слоў хвалу, уладыка", ды ў вадказ "хвалаванае гаспадарства...".

Далей у перакладзе стаіць падзагаловак "вялікая екцяньня", якая, дадам, мае яшчэ назоў і "мірнай", ды якую ад "злад"=/мір/ больш нам зразумела было-б называць "зазладным упрашаньнем".

Упрашаньні ў адправах, як ведама, складаюцца з прасьбоўных выгаласаў дыякана, або сьвятара й адпаведных ім адказаў маленьнікаў, ці хору.

Як выгаласы, гэтак і адказы ў царкоўна-славянскай мове складзеныя ў клічным /загадным/ ладзе, ды гэтак павінна было-б быць і пабеларуску, бо інакш у іх ня будзе сэнсу.

У перакладзе знайходзім, аднак, абвесны лад "у спакоі Госпаду памолімся", а трэба было-б мовіць "памалемся".

Але й у гэтым выслоўі адчуваецца нейкая няўклюднасьць і таму напрошваецца ягоная замена свойскім "у супакоі Госпада ўпрашайма", а яшчэ лепш было-б, не баючыся роднае Богам дадзенае мовы, казаць "...Гаспадара ўпрашайма".

Адказ на выгалас, празь які гутарка, у кніжцы гучыць "Госпадзе, памілуй", як-бы перакладнік ня ведаў, што "памілуй", падобна як напр. "пастой, пагладзь, патрымай", мае сэнс нясталасьці й з таго ў гэтым выпадку трэба казаць, калі ня "зьмілуй, Гаспадару", дык хоць "зьмілуй, Госпаду".

Паводле вышэй пададзенага ўзору трэба было-б перапрацаваць і ўсё зазладнае ўпрашаньне, за адно папраўляючы й іншыя моўныя агрэхі, як, хоць бы вельмі дакучлівы чужы парадак словаў, напр. "душаў нашых, краіну нашу, места гэтае, ратунак іхны", дзе павінна быць наадварот "нашых душаў, нашуЮ краіну, гэтае места" і г.д.

Выклікае засьцярогу й ужываньне перакладнікам словаў "выратаваньне, выратавацца, ратуй" ды далей у тэксьце "Ратаўнік" там, дзе вуха навыкла чакаць "збаўленьне, збавіцца, збаў" і "Збавец".

Гэтая непатрэбная навіна блытае духовыя й фізычныя разуменьні, з чаго моцна абніжаецца павага адправы.

Затое ў канцы зазладнага ўпрашаньня, пры ўспаміне Божае Маці, зусім на месцы было-б скарыстаць скарочаныя формы найвышэйшай ступені прыметнікаў, што пачалі ўваходзіць у слоўны запас нашае мовы, як напр. "найсьвятая" побач з "найсьвяцейшая", "найчыстая" і "найчысьцейшая", ды пад.

Таксама належала-б адважыцца й, замест слова йзь зьняважлівым адценям "дзева", паставіць пяшчотнае "дзеўна", якое ня толькі аўтар гэтага агляду прапануе год мо болей за трыццаць, але й Ларыса Геніюш ужывала ў ейнай творчасьці. (М.П.Пазьнякоў, Слоўнік эпітэтаў бел. літ. мовы. Менск, 1988. 263 бач., р.23)

Ды ўрэшце даводзіцца прыпомніць перакладніку, што й выгалас з успамінам Божае Маці складзены ў клічным ладзе, а таму ў ягоным канцы не абвешчаньне, што мы "...нашае жыцьцё Хрысту Богу аддамо", але заклік "аддайма, ці дакладней "прысьвяцем".

У канцавым сьвятарскім выгаласе варта было-б таксама зьмяніць "усякая слава" на "ўсялякая слава", "належыцца" на "належыць", ці мо старабеларускае "годзіць" і "вякі вечныя" ўсё-ж на "вякі вякоў".

І апошняе, што да агляданае Сьв. Літургіі трэба сказаць, гэта тое, што "амін" гучыць горш пабеларуску, як "амінь".

На гэтым "амінь", аж да наступнага разу, сёньня гутарка й стане.

/Працяг будзе/

**Барыс Данілюк**